*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



**2017, № 6(16). Чэрвень**

## Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі



***Бежанцы на Ружанскай вуліцы ў Слоніме. Здымак са збораў Bundesarchiv***

Падчас Першай сусветнай вайны, адыходзячы на ўсход, рускія войскі выганялі жыхароў заходніх паветаў Беларусі ў глыб Расійскай імперыі. Тым, хто не хацеў туды эвакуіравацца, казакі палілі хаты, гумна, палохалі тым, што калі прыйдуць немцы, яны пачнуць здзекавацца над беларусамі. Паддаўшыся на агітацыю, шмат сялян са слязьмі на вачах забівалі вокны і дзверы сваіх хат, і з дзецьмі, са старымі людзьмі ўцякалі на ўсход, дзе іх ніхто не чакаў. Бралася з сабой толькі самае неабходнае, астатняе або прадавалася тым, хто заставаўся, або адыходзіла ў казну для папаўнення расійскіх армейскіх харчовых і фуражных запасаў. Тысячы беларусаў бясконцым патокам, хто на фурманках, хто пяшком, пацягнуліся на ўсход.

Найбольш напярэдадні Першай сусветнай вайны апусцела Гродзенская губерня. Асабліва Беластоцкі, Гродзенскі, Ваўкавыскі, Сакольскі, Пружанскі, Бельскі, Лідскі, Навагрудскі і іншыя паветы. І вядома ж, Слонімскі павет. Большасць бежанцаў трапілі ў далёкія губерні Расіі, у тым ліку і ў Томскую губерню. Падлічана, што ад голаду, холаду і хваробаў на чужыне загінуў амаль кожны трэці беларус-бежанец.

*Працяг на ст. 9.*

## Загадкавы храм

Краязнаўцы пакуль ніяк не могуць разгадаць таямніцу фотаздымка часоў Першай сусветнай вайны. Ён быў змешчаны на нямецкай паштоўцы з пазнакай, што гэты храм знаходзіцца ў Слоніме. Ці сапраўды ў нашым горадзе? А калі так, то ў якім месцы? Паспрабуем разгледзець усе магчымыя версіі.

*Чытайце на ст. 3.*



*ХРОНІКА*

# Помнік Сапегу на Першамайскай вуліцы ў Слоніме



У траўні стала вядома, што "шматпакутны" помнік слонімскаму старосце, канцлеру ВКЛ Льву Сапегу плануецца ўсталяваць у скверы па Першамайскай вуліцы. Месца з прапанаваных варыянтаў не самае горшае. Сотні гадоў там стаялі гандлёвыя рады, ад якіх быў выдатна бачны замак. Побач знаходзіцца былая ратуша. Адзін з мінусаў — перагружанасць сквера помнікамі. Аднак канчатковае рашэнне яшчэ не прынятае.

# Слонімскі краязнавец атрымаў прэмію імя Стагановічаў




Слонімскі краязнавец, адзін з выдаўцоў і рэдактараў "СК" Сяргей Чыгрын атрымаў трэцюю прэмію імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў за кнігу "На радзіме Ігната Дварчаніна: з краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне" (Мінск: Кнігазбор, 2016). Урачыстае ўручэнне адбылося ў траўні ў сталіцы. Чыгрын атрымаў дыплом і памятны медаль. Віншуем!

●*СЁ*

# Цікавыя факты пра Слонім

375 гадоў таму (у 1642 годзе) ў нашым горадзе была пабудаваная Вялікая сінагога. Праз войны, пажары, праз дзейнасць вандалаў ды атэістаў яна захавалася да нашых дзён. На жаль, не ў лепшым стане, патрабуе рэстаўрацыі. Мясцовыя ўлады спрабуюць рэалізаваць праект па стварэнні ў сінагозе музея.



185 гадоў таму (19 студзеня 1832 года) у Слоніме расійскімі ўладамі была заснавана гарадская паліцыя. Тады ж яна з'явілася ў Ваўкавыску і Лідзе. Як піша даследчык Сяргей Грэсь, затрымка са стварэннем паліцыі была звязаная са спецыфікай юрыдычнага статусу згаданых гарадоў. Пасля падаўлення вызваленчага паўстання 1830-1831 гадоў расійскія ўлады намагаліся ўмацаваць свае пазіцыі на беларускай зямлі.



145 гадоў таму (у 1872 годзе) ў нашым горадзе пачалі праводзіцца метэаралагічныя назіранні. Як піша ў сваім даследаванні "Гісторыя метэаралогіі Беларусі" Раіса Аўчыннікава, адбылося гэта дзякуючы імператарскаму геаграфічнаму таварыству, створанаму ў Расіі ў 1845 годзе. Тады ж падобныя назіранні пачалі рабіць у Беластоку, Пінску, Друскеніках.

●*СЁ*

# Загадкавы храм

Сярод нямецкіх паштовак з краявідамі Слоніма, выдадзеных падчас Першай сусветнай вайны, ёсць адна, загадку якой пакуль краязнаўцам не ўдаецца разгадаць. На ёй бачым фота паўразбуранага культавага будынку і подпіс па-нямецку: “Слонім — Разбураны Храм”. Дакладна такі ж подпіс мае іншая тагачасная паштоўка, на якой бачым паўразбураны касцёл святога Андрэя. Па ёй пытанняў не ўзнікае — абрысы касцёла пазнавальныя, ёсць шэраг іншых здымкаў, малюнкаў, на якіх можна пабачыць дакладна такія разбурэнні. А вось выявы першага храма больш нідзе сустракаць не даводзілася.

Малаверагодна, каб тут была памылка з горадам — немцы адносіліся да выпуску паштовак адказна. Дык дзе ж мог знаходзіцца гэты храм? Гледзячы на разбурэнні, можна дапусціць, што на Замосці, якое ў 1915 годзе моцна пацярпела падчас баёў паміж нямецкімі і рускімі войскамі. Пра тое, што падобны каталіцкі храм/капліца быў побач з касцёлам св. Андрэя, інфармацыі няма. У раёне плошчы Сапегі яшчэ ў XIX стагоддзі існаваў кляштар марыявітак, а пры ім — капліца (на жаль, яе выявы знайсці не ўдалося, вядома, што мела яна тры акна). Пасля падаўлення вызваленчага паўстання 1863 года рускія ўлады закрылі кляштар, яго пераўтварылі ў казармы артылерыйскай брыгады.[1] Нават, калі тая капліца захавалася да часу Першай сусветнай вайны, дык яна не дзейнічала. А на паштоўцы мы бачым касцёл/капліцу з крыжамі.

Што ж тады застаецца? На каталіцкіх парафіяльных могілках на Лабазоўцы ў пачатку XIX стагоддзя існавала драўляная капліца. У 1828 годзе яна моцна пацярпела ад ветру і яе разабралі.[2]

Slonim – Zerschossene Kirche

Інфармацыі пра тое, што на могілках пазней паставілі мураваную капліцу, няма. На фота з паштоўкі мы бачым таксама надмагільны помнік. Можа і сапраўды гэта могілкі? Будзем працягваць пошукі, каб высветліць, дзе ж знаходзіўся загадкавы слонімскі храм.




**● *Сяргей Ёрш***

*[1] Прокофьев И. Площадь Льва Сапеги — колыбель истории Слонима // Слонімскі веснік, 2017, № 41, 8 красавіка. С. 5.*

*[2] Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013. С. 55.*

# Канверты са слонімскай тэматыкай

У спісе мастацкіх маркіраваных і немаркіраваных канвертаў сённяшняй "Белпошты", а таксама пошты СССР, ёсць канверты і са слонімскай тэматыкай. У маёй хатняй калекцыі захоўваецца канверт, прысвечаны Герою Савецкага Саюза Кузьме Гнідашу, які загінуў падчас Другой сусветнай вайны і пахаваны ў Слоніме па вуліцы Пушкіна каля Вечнага агню. На канверце адлюстраваны партрэт Гнідаша, на ўкраінскай і рускай мовах напісана: "Герой Савецкага Саюза маёр К. С. Гнідаш. 1914-1944". Канверт быў надрукаваны на Пермскай фабрыцы Дзяржзнака (Расія) у 1985 годзе.

Падобны канверт, прысвечаны Гнідашу, быў выпушчаны "Гроднааблпоштай" і надрукаваны ў Гродне ў 2004 годзе на беларускай мове. Канверт выйшаў з друку да 60-годдзя вызвалення Слонімшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Але прозвішча Героя Савецкага Саюза напісана паіншаму: Гнедаш Кузьма Савельевіч.

"Гроднааблпошта" ў 2004 годзе выпусціла яшчэ адзін канверт з выяваю Героя Савецкага Саюза — Фёдара Міхайлавіча Сінічкіна. Ён быў арганізатарам савецкага партызанскага руху, пасля вайны жыў у Слоніме, у 1946-1947 гадах быў старшынёй Слонімскага гарсавета.

У траўні 1989 года ў Слоніме адбыўся Усесаюзны семінар педагогаў. Да гэтага мерапрыемства Слонімская друкарня выпусціла вялікі канверт-сувенір. На ім быў адлюстраваны калаж з помнікаў і будынкаў Слоніма.

У 1991 годзе пошта СССР на Пермскай фабрыцы Дзяржзнака надрукавала канверт з гербамі беларускіх гарадоў XVI-XIX стагоддзяў: Ліды, Шклова, Мсціслаўля, Слуцка, Крычава і Слоніма. Канверт быў выпушчаны на дзвюх мовах: беларускай і рускай.

У 2002 годзе "Белпоштай" быў выдадзены юбілейны канверт "Слоніму 750 гадоў". На ім адлюстраваны будынак 1905 года, які месціцца на вуліцы Янкі Купалы, і герб горада. Усяго такіх канвертаў было выпушчана 103200 асобнікаў.

Сярод канвертаў першага дня — выйшаў і канверт з гербам Слоніма і з выявай Свята-Троіцкага сабора. Разам з канвертам з'явілася і паштовая марка з гербам Слоніма. Гашэнне канверта і маркі адбылося 20 студзеня 2004 года ў нашым горадзе.

Цікавым атрымаўся і канверт, прысвечаны гісторыі беларускай пошты. На канверце змешчаны стары будынак слонімскай пошты і шыльда (эмблема) Слонімскай паштовай станцыі XVIII стагоддзя. Гэты канверт выйшаў накладам 100 тысяч асобнікаў.

У 2007 годзе Слонімская друкарня накладам 500 асобнікаў надрукавала канверт, прысвечаны 755-годдзю з таго часу, калі Слонім згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе. На канверце адлюстраваны будынак мясцовага райвыканкама, герб горада і тэкст: Слонім 755.

У 2014 годзе ў Слоніме адбыўся Гродзенскі абласны фестываль-кірмаш "Дажынкі-2014". Да гэтай падзеі былі выпушчаны ажно тры канверты. На адным з іх адлюстраваны два фотаздымкі, а таксама герб Слоніма з каласамі і хлебам. На канверце чамусьці на рускай мове напісаны словы: "Слоним. Дожинки-2014", хаця ўсе астатнія дадзеныя на выданні надрукаваны па-беларуску. Канверт выпускала мінскае ААТ "Фармат-Маркет" на замову арганізатараў "Дажынак" у Слоніме. Дзіўна ад усяго гэтага! Бо падобныя выданні ў Беларусі заўсёды выдаваліся па-беларуску.

Другі канверт, прысвечаны слонімскім "Дажынкам", цалкам быў надрукаваны па-беларуску. Трэці канверт на замову райвыканкама быў надрукаваны ў Слонімскай друкарні. Гэта прыгожае выданне з эмблемай фестывалю, беларускім арнаментам і зваротным адрасам выканкама. Канверт выйшаў з друку разам з праграмкай фестывалю. Наклад яго быў 600 асобнікаў.

У канцы 1990-х гадоў свой уласны фірменны канверт мела Слонімская камвольна-прадзільная фабрыка. На ім на месцы зваротнага адрасу былі апублікаваны эмблема фабрыкі і адрас прадпрыемства.

Незвычайны канверт у 2004 годзе надрукавала "Гроднааблпошта". На ім змешчаны малюнак слонімскай школьніцы Наталлі Панчук, вучаніцы СШ № 10 горада Слоніма. Гэты малюнак школьніца некалі дасылала на конкурс дзіцячага малюнка і ён, відаць, быў сярод лепшых. Канверт выйшаў з друку накладам 3 тысячы асобнікаў.

Выдаваліся і канверты, прысвечаныя знакамітым людзям Слонімшчыны ці тым асобам, лёс якіх быў звязаны са слонімскай зямлёй. Да 125-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта, мастака, калекцыянера, публіцыста са Слоніма Гальяша Леўчыка (1880 — 1944) у 2005 годзе "Белпоштай" быў выпушчаны канверт. Канверт, прысвечаны 100-гадоваму юбілею паэта, празаіка, аўтара слонімскага вальса "Над Шчарай" Сяргея Новіка-Пеюна (1906 — 1994), "Белпошта" выпусціла ў 2006 годзе накладам 50 тысяч асобнікаў.

Да 450-годдзя з дня нараджэння палітычнага, грамадскага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі (1557 — 1633) "Белпошта" выдала канверт у 2007 годзе накладам 101 тысяча асобнікаў. З 1586 года і да канца жыцця Сапега быў слонімскім старостам і шмат увагі ўдзяляў нашаму гораду, які ператварыўся пры ім у важны палітычны цэнтр княства, у якім праходзілі генеральныя сеймікі ВКЛ.

Пабачыў свет і канверт да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта Валянціна Таўлая (1914 — 1947). Яго маленства прайшло на Слонімшчыне ў вёсцы Рудаўка. Тут ён атрымаў першую адукацыю, тут з сябрамі прымаў удзел у грамадска-палітычнай дзейнасці. Канверт адметны яшчэ і тым, што на другім яго баку апублікавана кароткая біяграфія Таўлая.

Нажаль, пакуль невядома, калі выйшаў першы канверт, прысвечаны Слонімшчыне і яе людзям.

●*Сяргей Чыгрын*








адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

Каму

Куды

індэкс















адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

Каму

Куды

Індэкс прадпрыемства сувязі месца назначэння













# Канверты са слонімскай тэматыкай

*Працяг, пачатак на ст. 4-5.*

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

БЕЛАРУСЬ 2005 BELARUS

1880 1944

Гальяш ЛЕЎЧЫК

Ляўковіч Ілья Міхайлавіч

125 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта

Каму

Куды

Індэкс прадпрыемства сувязі месца назначэння

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

БЕЛАРУСЬ 2002 BELARUS

Слоніму 750 гадоў




Індэкс прадпрыемства сувязі месца назначэння

БЕЛАРУСЬ 460

BELARUS 2004

ГЕРБ СЛОНІМА

БЕЛАРУСЬ

СЛОНІМ-9 20.01.2004

СЛОНІМ

Першы дзень

Premier jour

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

Герой Савецкага Саюза Сянкін Фёдар Міхайлавіч







Індэкс прадпрыемства сувязі месца назначэння

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

2010

БЕЛАРУСЬ BELARUS

STACYA POCZTHALTEREY SLONIMSKA

Шыльда на Слонімскай паштовай станцыі, канец XVIII ст.

Старонкі гісторыі беларускай пошты




Слонім. Будынак пошты, пачатак XX ст.

Слонімскі раённы выканаўчы камітэт

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

вул. Чырвонаармейская, 40

г. Слонім

231800, Гродзенская вобл.

Рэспубліка Беларусь




Абласны фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі



Каму

Куды

індэкс

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

Конкурс дзіцячага малюнка

Панчук Наташа, 12 год

СШ № 10 г. Слонім

Каму

Куды

Індэкс прадпрыемства сувязі месца назначэння

Республика Беларусь

231800, Гродненская обл.

г. Слоним, ул. Брестская, 42

"СЛОНИМСКАЯ КАМВОЛЬНО-ПРЯДИЛЬНАЯ ФАБРИКА"

акционерное общество




Кому а/я 5

Куда г. Слоним

231800

Индекс предприятия связи места назначения

# Слонімцы — удзельнікі Белага руху ў Расіі

Малавядомая старонка ў гісторыі Слонімшчыны — удзел нашых землякоў у грамадзянскай вайне ў Расіі ў 1917-1921 гадах у шэрагах Белага руху. Адмысловых даследаванняў на гэтую тэму з розных прычынаў не праводзілася. Расійскі гісторык Сяргей Волкаў падрыхтаваў базу дадзеных "Удзельнікі Белага руху ў Расіі"*, у якой сярод дзясяткаў тысяч асобаў згадваюцца і нашыя землякі. Мы падрыхтавалі невялікую падборку інфармацыі пра іх, дапаўняючы яе звесткамі з базы рэпрэсаваных "Мемарыяла".**

**Александровіч Аляксандр Іванавіч**, 1889 года нараджэння, ураджэнец Слоніма. Штабс-капітан. Служыў ва Узброеных сілах Поўдня Расіі. Трапіў у палон. На 1922 год жыў у савецкай Украіне, быў на "асаблівым уліку". Пазней жыў у горадзе Растоў Яраслаўскай вобласці РСФСР. Арыштаваны ў снежні 1930 года. У чэрвені 1931-га асуджаны на расстрэл за "падрыхтоўку дыверсій і шкодніцтва", растраляны 3 ліпеня, пахаваны на Ваганькаўскіх могілках у Маскве. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.

**Байрашэўскі Яг'я Ібрагімавіч**, 1895 года нараджэння. Па адных звестках, нарадзіўся ў Слоніме, па іншых — у Навагрудку. З дваран. Быў падпаручнікам 1-га Каўказскага стралковага палка. У Белым руху са снежня 1917 года, у Крыме. У 1920 годзе застаўся ў савецкай Расіі, выкладаў у Крымскім педагагічным інстытуце. У 1937 годзе арыштаваны, а 17 красавіка 1938-га растраляны.

**Гродзенскі Іосіф Альбертавіч**, нарадзіўся ў Слоніме 28 чэрвеня 1892 года. Скончыў Праскураўскую рэальную вучэльню і, верагодна, Наварасійскі ўніверсітэт. Быў юрыстам паводле адукацыі. У пачатку 1920-х эміграваў, жыў у Францыі, у Монпелье. Далейшы лёс невядомы.

**Казімірчык** (варыянт прозвішча — Казімірчанка) **Акім Герасімавіч**, 1886 года нараджэння, ураджэнец Косаўскай воласці Слонімскага павета. Разам са сваімі землякамі



Іосіфам Мажэйкам і Сямёнам Каралём служыў у асобым аддзеле 13-й арміі ЧА, быў абвінавачаны ў шпіянажы на карысць "барона Врангеля", арыштаваны, у 1921 г. знаходзіўся ў канцлагеры ў Разані. 23 красавіка 1921 года вызвалены. Далейшы лёс невядомы.

**Кароль Сямён Сямёнавіч**, 1897 г. н., ураджэнец в. Скураты Косаўскай воласці Слонімскага павета (цяпер — Івацэвіцкі раён). Служыў у асобым аддзеле 13-й арміі ЧА, быў абвінавачаны ў шпіянажы на карысць "барона Врангеля", арыштаваны, у 1921 г. знаходзіўся ў канцлагеры ў Разані. 20 красавіка 1921 года вызвалены. Далейшы лёс невядомы.

**Ксенафонтаў Яўген Мікалаевіч,** нарадзіўся 1 сакавіка 1893 года ў Слоніме. Скончыў Яраслаўскі кадэцкі корпус (1911г.), Аляксандраўскую вайсковую вучэльню (1913г.). Падчас Першай сусветнай вайны служыў у 198-м пяхотным палку, капітан. З лістапада 1918 года — у белых войсках Паўночнага фронту, даслужыўся да падпалкоўніка. Трапіў у палон. Жыў у Архангельску, знаходзіўся на "асобым уліку". Арыштаваны, асуджаны ў лютым 1939-га на 7 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ў 1993 годзе.

**Мажэйка Іосіф**, 1901 г. н., ураджэнец Косаўскай воласці Слонімскага павета. Служыў у асобым аддзеле 13-й арміі ЧА, быў абвінавачаны ў шпіянажы на карысць "барона Врангеля", арыштаваны, у 1921 г. знаходзіўся ў канцлагеры ў Разані. Далейшы лёс невядомы.

**Марчык Пелагея Дзмітрыеўна**, 1894 года нараджэння. З сялян Слонімскага павета. Служыла ва Узброеных сілах Поўдня Расіі. Была паранена падчас выбуху на вучэбным караблі "Рыён" 30 сакавіка 1919 года, які ішоў з Еўпаторыі ў Наварасійск. Далейшы лёс невядомы.

**Петраш Мікалай Іосіфавіч**, ураджэнец Слонімшчыны (недакладна). Пасля паражэння Белага руху ў Расіі выехаў за мяжу. Маці і брат жылі ў Слоніме. У 1932 годзе яго аб'явілі ў вышук ў савецкай Расіі. Магчыма, меў дачыненне да антысавецкіх эмігранцкіх арганізацый.

**Рошчанка Фама Іванавіч**, 1898 г. н., ураджэнец в. Байкі Слонімскага павета. Падпаручнік. Служыў у белых войсках Усходняга фронту. Трапіў у палон. Пазней быў на асаблівым уліку ў Кіеўскім ДПУ. Далейшы лёс невядомы.

**Турчанінаў Аляксандр Паўлавіч**, нарадзіўся ў Слоніме 13 траўня 1889 года. З сялян. Скончыў камерцыйную вучэльню ў Беластоку, вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім політэхнічным інстытуце, які не скончыў. Вырашыў звязаць свой лёс з вайсковай кар'ерай, у 1913 г. скончыў Адэскую вайсковую вучэльню. Быў паручыкам 1-га запаснога цяжкага артылерыйскага дывізіёна. З лета 1918-га служыў у белых войсках Усходняга фронту, спачатку быў у Самары, пасля камандаваў батарэяй кадравага артылерыйскага дывізіёна Іркуцкай ваеннай акругі. У снежні 1919 года пад Краснаярскам трапіў у палон, пазней быў залічаны ў Чырвоную Армію, у якой служыў да 1923 г. Далейшы лёс невядомы.

**Шумейка Казімір Уладзіслававіч**, ураджэнец Слоніма, 1892 г. н. Падпаручнік. Трапіў у палон да чырвонаармейцаў. У 1921 годзе быў на асаблівым уліку ў Балцкім ДПУ. Далейшы лёс невядомы.

**Шэндзік Аляксандр Аляксандравіч**, ураджэнец г. Слоніма. Трапіў у палон да чырвонаармейцаў. Пазней знаходзіўся на асаблівым уліку ў Харкаўскім ДПУ. Далейшы лёс невядомы.

●***Генадзь Гурскі***

*http://swolkov.org/

**http://lists.memo.ru/

# Нашы землякі-чырвонаармейцы

Нядаўна ў рукі трапіла аб'ёмнае выданне 1926 года са спісам загінулых у шэрагах Чырвонай Арміі падчас грамадзянскай вайны ў Расіі. Не пашкадаваў часу, пагартаў больш за шэсць соцень старонак і пазнаходзіў усіх ураджэнцаў былога Слонімскага павету. У слонімскай кнізе "Памяць" ёсць невялікі спіс нашых землякоў, якія ваявалі за савецкую ўладу і загінулі. Высвятляецца, што ён далёка няпоўны.

На жаль, у біяграмах, змешчаных у кнізе "Именной список…", зроблена нямала памылак — назвы населеных пунктаў пісарамі запісваліся са скажэннямі (такія ж скажэнні могуць быць і ў прозвішчах). У некаторых выпадках іх удалося выправіць, у іншых гэта зрабіць не ўдалося. На жаль, месцы гібелі і пахавання засталіся невядомыя.

**Арцюк Аляксандр Антонавіч**, чырвонаармеец, з вёскі Саковічы. Забіты ў баю 11 жніўня 1920 года.

**Баранаў Васіль**, чырвонаармеец, з вёскі Кленчы Ружанскай воласці. Забіты ў баю 13 верасня 1920 года.

**Бомберг Зекент**, чырвонаармеец, з Дзятлава. Забіты ў баю 15 ліпеня 1920 года.

**Бурвін Даніла Ануфрыевіч**, чырвонаармеец, з вёскі Заполле Косаўскай воласці (Івацэвіцкі раён). Забіты ў баю 30 сакавіка 1919 года.

**Бутырчык Пракоп**, ураджэнец, магчыма, Кастровіцкай воласці (пад пытаннем). Забіты ў баю 25 кастрычніка 1919 года.

**Васіленчык Міхаіл**, чырвонаармеец, ураджэнец Слонімшчыны. Забіты ў баю 8 ліпеня 1920 года.

**Верашэдчык Пётр**, чырвонаармеец. Ураджэнец былога Слонімскага павета (названыя ў кнізе населеныя пункты ідэнтыфікаваць не ўдалося). Забіты ў баю 19 сакавіка 1919 года.

**Вікцюк Міхей**, чырвонаармеец, з вёскі Савічы


ИМЕННОЙ СПИСОК

на фронтах в личном составе Рабоче-Крестьянской Красной Армии за время гражданской войны.

ИЗДАНИЕ
...авления Устройства и Службы войск Г. У. Р. К. К. А
1926 г.

(Дзятлаўскі раён). Забіты ў баю 20 чэрвеня 1920 года.

**Вішнеўскі Дзмітрый Сцяпанавіч**, чырвонаармеец, ураджэнец Слонімшчыны. Забіты ў баю 28 чэрвеня 1920 года.

**Гарко Мікалай Васільевіч**, чырвонаармеец. Месцам нараджэння пазначана "в. Ляскі Лушканскай воласці" Слонімскага павету. Загінуў у баю 22 жніўня 1920 года.

**Грыбун Міхаіл** з вёскі Міронім (у арыгінале — "Мароны") Быценьскай воласці (Івацэвіцкі раён). Загінуў у баю ў сакавіку-чэрвені 1920 года.

**Грыцук Дзмітрый**, чырвонаармеец, ураджэнец Слоніма. Загінуў у баю 10 студзеня 1919 года.

**Ждановіч Вікенці**, чырвонаармеец, з вёскі Быч Косаўскай воласці (Івацэвіцкі раён). Памёр 10 студзеня 1921 года.

**Коганаў Ігнат Мікалаевіч**, чырвонаармеец, з Кастровіцкай воласці. Загінуў у баю 13 траўня 1919 года.

**Крэчак Сцяпан Іосіфавіч**, чырвонаармеец. Ураджэнец Слонімшчыны (названыя ў кнізе населеныя пункты ідэнтыфікаваць не ўдалося). Памёр ад ран 13 лютага 1919 года.

**Кузьмін Сцяпан Раманавіч**, чырвонаармеец, ураджэнец Быценьскай воласці (Івацэвіцкі раён). Забіты ў баю 3 верасня 1920 года.

**Кулак Васіль Андрэевіч**, чырвонаармеец, з вёскі Алексічы Дзярэчынскай воласці (Зэльвенскі раён). Памёр ад захворвання тыфам 16 траўня, год не пазначаны.

**Кульба Іосіф Андрэевіч**, чырвонаармеец. Ураджэнец Слонімшчыны (названыя ў кнізе населеныя пункты ідэнтыфікаваць не ўдалося). Забіты ў баю 27 ліпеня 1920 года.

**Лазугоз Аляксандр**, чырвонаармеец. Ураджэнец Слонімшчыны (названы ў кнізе населены пункт ідэнтыфікаваць не ўдалося). Забіты ў баю 23 верасня 1920 года.

**Мартысевіч Іосіф**, санітар, ураджэнец "вёскі Горбачы Пяскоўскай воласці". Забіты ў баю 4 жніўня 1920 года.

**Міхаметаў Іван**, тэлеграфіст, з Дзярэчынскай воласці (Зэльвенскі раён). Забіты 10 ліпеня 1920 года.

**Носар Ілля**, чырвонаармеец. Верагодна, з былой Ружанскай воласці. Забіты ў баю 26 красавіка 1919 года.

**Пясляк Сцяпан**, чырвонаармеец. Ураджэнец Слонімшчыны. Памёр ад хваробы 3 студзеня 1921 года.

**Пракаповіч Мікалай Васільевіч**, разведчык, з Кастровічаў. Забіты бандытамі ў траўні 1920 года.

**Рагоза Аляксандр Сцяпанавіч**, чырвонаармеец. Ураджэнец Слонімшчыны. Забіты ў баю 30 траўня 1920 года.

**Станкевіч Венедыкт Фёдаравіч**, чырвонаармеец, з вёскі Агароднікі (Дзятлаўскі раён). Забіты ў баю 28 кастрычніка 1920 года.

**Шыцікаў Антон**, чырвонаармеец. Ураджэнец Слонімшчыны. Памёр 20 красавіка 1920 года.

**Урублеўскі Георгій Фёдаравіч**, чыгуначны майстар. Вядома толькі, што паходзіў са Слонімскага павету. Ён не загінуў, а памёр. Датай смерці пазначана 4 сакавіка, а года і месца смерці няма.

*Падрыхтаваў* ***Генадзь Гурскі***

НЕЗАБЫЎНАЕ

# Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Нядаўна гісторык і краязнавец з расійскага горада Барнаула Андрэй Краснашчокі даслаў мне спіс сямейных бежанцаў у Томскай губерні, які быў выдадзены асобным выданнем ў Томску ў 1916 годзе. Гэты том бежанцаў падрыхтавала тады рэгістрацыйнае і даведачнае для бежанцаў бюро пры статыстычным аддзеле Томскага перасяленчага раёна. Высветлілася, што сярод бежанцаў Томскай губерні знаходзілася і шмат жыхароў былога Слонімскага павета. У прадмове да "Бежанцаў у Томскай губерні" паведамляецца, што з пачатку бежанскага руху праз Томскую губерню прашло больш за 56 тысяч чалавек з тагачасных беларускіх губерняў. А напачатку ліпеня 1916 года на тэрыторыі Томскай губерні былі зарэгістраваны і пражывалі 35824 чалавекі.

З гэтага нумару "Слонімскага краю" мы распачынаем друкаваць спісы жыхароў былога Слонімскага павета (а ён па тэрыторыі быў значна больш, чым сённяшні Слонімскі раён), якія трапілі ў бежанства ў Томскую губерню. Магчыма сённяшнія ўнукі і праўнукі па гэтых спісах адшукаюць сваіх далёкіх сваякоў.

Будзем рады атрымаць ад нашых чытачоў фотаздымкі тых жыхароў Слонімшчыны, якія былі ў бежанстве, вярнуліся ці не вярнуліся на Бацькаўшчыну. А таксама згадкі пра іх лёс. Магчыма, з цягам часу мы выдадзім асобную кнігу, у якой раскажам пра лёс беларусаў-бежанцаў са Слонімскага павета ў часы Першай сусветнай вайны. Бежанства — гэта адна з трагічных старонак нашай гісторыі. І пра гэта забываць нельга.

●*Сяргей Чыгрын*



**Бежанцы Слонімскага павета ў Томскай губерні (1915-1916 гады)**

1. **Адамік Усціна Пятроўна**, з ёй Адамік Мікалай Міхайлавіч, 41 год, дзеці: Мар, 16 год, Кан., 14 год, Ів., 10 год, Апс., 6 год, Ул., 4 года, Геор.,2 года, дзед Міхаіл, 77 год, жонка брата Пел., 30 год, дзеці: Ів., 5 год, Яўг., 4 года, Мар., 2 года. Усе прыехалі з Галынкаўскай воласці, вёскі Вялікія Азёры. Пасяліліся ў пасёлку Крывазначы Томскага павета.

2. **Адамчык Іван Уладзіміравіч**, 35 год, жонка Мар., 40 год, дзеці: Вас., 10 год, Фёд., 7 год, Ул.. 3 года. Усе прыехалі з Дварэцкай воласці, вёскі Навасёлкі. Пасяліліся ў Круталагоўскай воласці, пасёлку Уладзіслаўскі.

3. **Адамчык Іван** з сям'ёй. Рагоцінскай воласці, вёскі Лагуны. Пасяліліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

4. **Андрыкевіч Павел Іванавіч**, жонка Марыя, дзеці: Тр., Ан., Соф., Яўг., бабуля Д. Прыехалі з Цярэшчанскай воласці, вёскі Кочань. Часова пасяліліся ў Каінскім павеце, вёсцы Бакмасіха.

5. **Анушкевіч Павел Юсцінавіч**, 15 гадоў, сястра Агапія, 19 гадоў. Прыехалі з Дварэцкай воласці, вёскі Тачкуноў. Часова пасяліліся ў пасёлку Владзіслаўскі.

6. **Аперловіч Пётр Іванавіч,** з ім яшчэ 5 чалавек. Прыехалі з вёскі Варонічы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

7. **Бабуля Міхаіл** Кір., 62 гады, жонка Еф., 42 гады, дзеці: Вольга, 17 гадоў, Матрона, 14 гадоў, Пар., 8 гадоў, Еўдакія, 6 гадоў, Надзея, 4 гады.

8. **Байтко Кацярына Андрэеўна**, 45 гадоў, дзеці: Дар'я, 19 гадоў, Ан., 14 гадоў, Вольга 12 гадоў, Алена 10 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

9. **Балабко Арцём Ціханавіч**, жонка Ф., дзеці: Сямён, 20 гадоў, Сяргей, 12 гадоў, Ганна, 10 гадоў, Анісся, 8 гадоў, Аксіння, 6 гадоў, Г., 4 гады. Прыехалі з вёскі Варонічы. Часова спыніліся ў Томску.

10. **Банкалюк Наталля Рыгораўна**, з ёй — 2 мужчыны і 1 жанчына. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Турпаева.

11. **Бахур Алд. Мацв.**, 42 гады, дзеці: Кацярына, 15 гадоў, Васіль, 12 гадоў, Марыя, 6 гадоў.

Прыехалі з Боркаўскай валасці. Часова спыніліся ў Марыінску.

12. **Бахур Ан.**, 57 гадоў, дзеці: Ан., 16 гадоў, Ів., 14 гадоў, Алд., 3 гады, нявестка Пелагея, 23 гады. Прыехалі з Боркаўскай валасці. Часова спыніліся ў Марыінску.

13. **Бахур Ігнат Сямёнавіч**, 37 гадоў, жонка Фёкла, 37 гадоў, дзеці: Ігнат, 16 гадоў, Рыгор, 12 гадоў, Федзя, 8 гадоў, Максім, 1 год, і бацька Сямён, 75 гадоў. Прыехалі з Боркаўскай валасці. Часова спыніліся ў Марыінску.

14. **Бахур Іосіф Максімавіч**, 34 гады, жонка Кацярына, 18 гадоў. Прыехалі з Боркаўскай валасці. Часова спыніліся ў Ніжнім Пятроўску.

15. **Бегер Васіль Андрэевіч**, 26 гадоў, жонка Аг.Лук., 26 гадоў, дзеці: Міхась, 6 гадоў, Насця, 4 гады, сястра Ганна, 30 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова пасяліліся ў Пачынскім ваяводстве, вёсцы Баранова.

16. **Бегер Паліна Ульянаўна**, з ёй былі 2 мужчыны і 3 жанчыны. Прыехалі з Міжэвіцкай валасці. Часова пасяліліся ў горадзе Багатол.

17. **Бенасік Павел Іванавіч**, 32 гады. Жонка Алд., 25 гадоў, дзеці: Іван. 4 гады, Вольга — паўгода. Прыехалі з Быценьскай валасці, вёскі Гнойнай. Часова пасяліліся ў Томскім павеце, сяле Балотнае.

18. **Бітук Дом. Сям.** Прыехала з вёскі Галынка. Часова спынілася ў Бійску.

19. **Блоцкі Іван Андрэевіч**, жонка Елізавета, дзеці: Астап, Сцяпан, Насця. Прыехалі з Боркаўскай валасці, вёскі Любішчыцы. Часова спыніліся ў Змяінагорскім павеце.

20. **Балкунец Анастасія**, дзеці: Васіль, Андрэй, Рыгор, Піліп. Прыехалі з Шылавіцкай валасці. Часова спыніліся ў Татарску.

21. **Баўцячна Ігнат Антонавіч**, 50 гадоў, жонка Кацярына, 40 гадоў, дзеці: Усціння, 19 гадоў,




Вольга, 17 гадоў, Васіль, 14 гадоў, Апанас, 10 гадоў, Алд., 3 гады. Прыехалі з Боркінскай валасці, вёскі Падстарыны. Часова спыніліся ў Марыінскім павеце, п/а Цюхцель.

22. **Бондар Тр. Ад.**, 39 гадоў, жонка Варвара, 30 гадоў, дзеці: Сяргей, 9 гадоў, Вольга, 5 гадоў, Пятро, 1 год. Прыехалі з Дзятлаўскай валасці, вёскі Боцкавічы. Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце, вёсцы Нова-Бачацкая.

23. **Бочка Ганна** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Катчыно Дзярэчынскай валасці. Часова спыніліся ў горадзе Ніжні Нікалаеўск.

24. **Бялькевіч Емяльян Варфаламеевіч**, 38 гадоў, жонка Фёкла Сямёнаўна, 32 гада, дзеці: Іван, 6 гадоў, Людміла, 2 гады, Лявон, 12 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

25. **Бялькевіч Емяльян Якаўлевіч**, 48 гадоў, жонка Тацціяна, 41 год, дзеці: Соф'я, 12 гадоў, Марыя, 9 гадоў, Фёкла, 3 гады. Прыехалі з сяла Красавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Балотнае.

26. **Бялькевіч Антон Варфаламеевіч**, 55 гадоў, жонка Фядора, 50 гадоў, дзеці: дачка Мар., 19 гадоў, унучка Надзя, 1 год. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

27. **Брыдлер Астап Мацвеевіч**, 54 гады, жонка Соф'я. Прыехалі з вёскі Катчыно Дзярэчынскай валасці. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, вёсцы Бакласіха.

28. **Брыль Фёдар Мацвеевіч**, 54 гады, сын Алд., 13 гадоў. Прыехалі з Боркаўскай валасці, сяла Любішчыцы. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў сяле Аляксандраўскае.

29. **Будзько Цімафей Васільевіч**, 42 гады, жонка Кацярына, 39 гадоў, дзеці: Соф'я, 16 гадоў, Андрэй, 13 гадоў, Міхась, 9 гадоў, брат Васіль, 24 гады. Прыехалі з вёскі Варонічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў вёсцы Баранава.

30. **Булыка Васіль Рыгоравіч**, 22 гады, брат Лявон, 18 гадоў, сётры Домна, Марыя. Прыехалі з вёскі Малая Кракотка. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў вёсцы Усць-Іня.

31. **Бурак Фёдар Сямёнавіч**, 25 гадоў, жонка Марыя, 21 год, дзеці: Іван, 4 гады, Пётр, 1 год, бацька Сямён, 70 гадоў. Прыехалі з Дзятлаўскай валасці. Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце ў вёсцы Тыхта.

32. **Бурак Іван Сямёнавіч**, 57 гадоў, жонка Паўліна. 52 гады, дзеці: Аляксей. 10 гадоў, Лідзія, 8 гадоў, Сцяпан. 4 гады. Прыехалі з Дзятлаўскай валасці. Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце ў вёсцы Тыхта.

*Працяг у наступным нумары*

# Беларускае слова ў Свята-Троіцкім саборы



Уніяты, якія мелі ў міжваенны час свой цэнтр у Альбярціне, выкарыстоўвалі беларускую мову. У мясцовых праваслаўных і рыма-каталікоў гэтага не было. Выдаваўся ўніяцкі часопіс "Да Злучэньня", мова гучала і ў цэрквах у Альбярціне, Сынковічах. Аднак невядомым быў факт, што дзякуючы ўніяцкаму святару Антону Неманцэвічу, беларуская мова часова загучала ў слонімскім бернардзінскім касцёле (цяпер — праваслаўны Свята-Троіцкі сабор). Здарылася гэта ў 1932-1933 гадах пры польскіх уладах.

Першае набажэнства ва ўсходнім абрадзе а. Неманцэвіч правёў у згаданым касцёле ў нядзелю, 25 снежня 1932 года. Служба адбывалася на царкоўнаславянскай мове, а казання не было "з-за позняга часу". Святар аб'явіў па-беларуску, што падобныя набажэнствы будуць адбывацца ў апошнія нядзелі кожнага месяца (наступныя былі прызначаны на 29 студзеня, 26 лютага).

Гэтая вестка выклікала абурэнне ў часткі палякаў, якія лічылі Унію "інструментам русіфікацыі насельніцтва". У мясцовай прэсе яны нагадвалі, што бернардзінскі касцёл быў пабудаваны за "польскія грошы", а ў яго падзямеллях спачываюць парэшткі найвыбітнейшых сыноў Слонімшчыны. Айцец Антон Неманцэвіч у студзені 1933-га надрукаваў ліст у польскай прэсе, у якім патлумачыў сітуацыю. Паводле яго слоў, да "каталіцкай парафіі ўсходне-славянскага абраду ў Альбярціне" (у той час яе пробашчам быў а. Неманцэвіч) належыць і Слонім, там ёсць 70 вернікаў-уніятаў. А паколькі ўласнага храма ці капліцы ў горадзе няма, то і даводзіцца карыстацца дзеючым касцёлам. Але з дазволу "ўладаў касцёльных", а не самачынна.

Аднак палякі не супакойваліся, публікацыі пра "русіфікатараў" працягвалі з'яўляцца. Пісалі, што набажэнства ў касцёле вельмі нагадвае набажэнства ў царкве, а яшчэ яны абураліся казаннямі "на непольскай мове ў святыні, ўфундаванай палякамі". Але многія слонімцы, у тым ліку і палякі, не былі з такой пазіцыяй згодныя. Сланімчанка Браўн вясной 1933 года збірала подпісы супраць кампаніі, якую некалькі польскіх газет вялі супраць альбярцінскіх езуітаў. Гэта крыху працвярозіла праціўнікаў акцыі а. Неманцэвіча. Яны пачалі пісаць, што не з'яўляюцца ворагамі Уніі і яе ідэі, ім не падабаецца толькі "ўжыванне рускай мовы ў прапагандзе і набажэнствах".



*Антон Неманцэвіч*

Цяжка сказаць, як доўга ўніяцкі святар праводзіў набажэнствы ў бернардзінскім касцёле і прамаўляў беларускамоўныя казанні. Аднак у 1934 годзе ён быў пераведзены на Валынь, дзе некалькі гадоў выкладаў у семінарыі ў Дубне.

●***Сяргей Ёрш***

НАГОДА

# Тры юбілеі п’есы Кандрата Лейкі “Снатворны мак”


К. Лейко.

СНАТВОРНЫ МАК.

Сцэна для дзіцячых тэатроў.



ВІЛЬНЯ.
Друкарня „Артель Печатнаго Дѣла“. Телеф. № 198.

1912.


*Пастаноўка п’есы ў Дзвінску ў 1922 годзе.*

Беларускі паэт, празаік, публіцыст, драматург і педагог Кандрат Лейка (1860 — 1921) нарадзіўся на Слонімшчыне ў вёсцы Збочна. Роўна 105 гадоў таму, у 1912 годзе ў Вільні, асобнай маленькай кніжачкай выйшла з друку яго п’еса для дзяцей “Снатворны мак”. Яе Кандрат Лейка прысвяціў дзецям Слонімскага павета. П’еса паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей.

Упершыню гэты твор нашага земляка быў пастаўлены рэжысёрам Язэпам Камаржынскім у Дзвінску ў 1922 годзе. У спектаклі тады выступалі вучні ўзорнай беларускай школы пры Беларускіх настаўніцкіх курсах Дзвінска. Гэта адбылося 95 гадоў таму.

Другі раз сцэнічнае жыццё п’еса Кандрата Лейкі “Снатворны мак” атрымала ў горадзе Краснаполле Магілёўскай вобласці. Мясцовы народны тэатр у 1987 годзе таксама звярнуўся да п’есы нашага земляка. Яе паставіў тэатральны рэжысёр Валянцін Ермаловіч. Было гэта 30 гадоў таму.

П’еса “Снатворны мак” — гэта навеяны фальклярыстычным духам і паэтычнасцю драматычны твор, у якім аўтар выяўляе гуманістычныя ідэалы. У п’есе дзейнічаюць адухоўленыя вобразы кветак — Маку, Званочка, Ружы, Разяды, а таксама вобразы Пчалы, Асы, Мурашкі, Матыля, Коніка. Ёсць тут і міфалагічны вобраз добрага Дзеда-Лесавіка. П’есай “Снатворны мак” Кандрат Лейка паказаў сваю блізкасць не толькі да беларускай народнай песні, але і да казкі, да міфалагічных традыцый нашага фальклору.

●*Сяргей Чыгрын*


*Пастаноўка “Снатворнага маку” ў Краснаполлі ў 1987 годзе.*


*Кандрат Лейка*

УСПАМІНЫ

# Мая Слонімшчына

*Працяг, пачатак у № 5(15).*

У 1941 годзе 22 чэрвеня немцы пачалі вайну з савецкай Масквою. Ужо на другі дзень вайны ў Слонім наехалі немцы. Апусцеў тады Слонім. Цяжка яго было пазнаць. Немцы скінулі на Слонім тры бомбы, але пажару ад іх не было.[1] Пасля двух месяцаў нямецкае акупацыі на вуліцах Слоніма з'явіліся новыя аб'явы, якія абвяшчалі, што і як рабіць паводле "новага парадку".

Неяк у канцы жніўня [1941 года] прыехаў я з вёскі ў Слонім і наведаў С. Новіка-Пеюна, як былога майго школьнага інспектара і ўжо добра знаёмага. Я хацеў даведацца ў яго, што маюць рабіць беларусы пад нямецкай акупацыяй. Расказаў ён мне аб жудаснай падзеі, як яму шчасліва ўдалося выратавацца ад смерці, бо каля 200 чалавек немцы ўжо расстралялі.[2]

У першыя дні прыходу немцаў палякі захапілі ўладу ў свае рукі, як прыяцелі немцаў. Бургамістрам гораду стаў польскі ксёндз, а старшынёй павету нейкі польскі шавініст Р[ымш]а. На шчасце, сакратаром канцылярыі ў Р[ымш]ы аказаўся добры беларус — П-нскі. Хоць ён і быў польскім афіцэрам, але знайшлося ў яго больш беларускага патрыятызму, чым рэнегацтва, на што спадзяваўся Р[ымш]а. Пазней П-нскі працаваў настаўнікам БКА[3], яго мабілізавалі на інструктара [слонімскага] батальёна.

І вось спадар Новік-Пяюн пайшоў у тую "ўправу" на рэгістрацыю, як мясцовы жыхар Слоніма, каб атрымаць працу дзеля ўтрымання свае сям'і. На яго вачах адбылася падзея, якая перамяніла ўсю



***Бой на чыгуначнай станцыі ў Слоніме, 24 чэрвеня 1941 года. Фота: http://deutscher-stolz.livejournal.com***

сітуацыю ў Слоніме. Дайшло ўжо ў апытанні Новіка-Пеюна да таго, каб арыштаваць яго і вывесці ў іншы пакой.

У гэты час увайшоў у пакой нейкі чалавек і загаварыў да Р[ымш]ы па-нямецку. Яны абодва выйшлі ў бакавы пакой, адтуль Р[ымш]а ўжо не вярнуўся. Сакратар П-нскі звярнуўшыся да ўсіх, што чакалі на рэгістрацыю, сказаў, каб усе прыйшлі на другі дзень. Такім чынам Новік-Пяюн вярнуўся ў сваю хату жывым. Што сталася з Р[ымша]м, ніхто не ведаў. Выяснілася потым, што быў гэта чалавек нядобрай натуры — адзін з тых палякаў, якія стараліся вынішчыць беларускую інтэлегенцыю нямецкімі рукамі, каб пазбавіць народ наш сваіх дзеячаў і кіраўнікоў.

Прыпамінаецца мне адна вельмі сумная падзея з таго часу. Савецкія ўлады ў свой час у Слоніме арганізавалі школу ФЗО [4] для навучання моладзі практычнаму рамяслу. Таксама тады была створана і пажарная ахова з моладзі Слонімшчыны. У тыя часы камсамол толькі што з'яўляўся ў школах. Калі пачалася вайна, вучні ФЗО хутка разбегліся дамоў, а пажарная ахова засталася на сваёй службе. Пажарнікі насілі ўніформы з нейкімі літарамі на рукавах. Той самы Р[ымш]а сказаў немцам, што гэтыя літары абазначаюць камсамол і немцы яму паверылі. Неўзабаве ўсіх пажарнікаў арыштавалі і кудысьці вывезлі, а потым ўпотайкі, як людзі казалі, іх расстралялі. А былі ж сярод гэтых пажарнікаў хлопцы жанатыя ды з маленькімі дзецьмі.

Наслухаўшыся розных вестак, якія былі праўдзівымі ці можа з намыслам пашыраліся ў Слоніме — зрабілася мне страшнавата тут надалей заставацца. Хутка немцы пачалі адасабляць жыдоў у асобны раён, ды вывозіць некаторых нібыта на працу пад Альбярцін, адкуль яны не вярталіся.

Маючы свой ровар, я хутка выехаў ізноў у вёску, пакінуўшы свой дом у Слоніме пустым. У Жыровічах напаткаў вялікі абоз фурманак, на якіх сядзелі фурманы і некалькі немцаў. Ехалі яны недзе з-пад Белавежы ў напрамку на Баранавічы.

*працяг на ст. 14*

Выгляд вазоў быў беларускі, але некалькі было з адным дышлем[5]. Мінуўшы абоз, я бакавой дарогай шчасліва дабраўся да хаты свайго дзядзькі. Тут я пражыў можа месяц часу, пакуль усё супакоілася ды з'явілася новая ахвота паехаць у Слонім.

Было гэта ў канцы верасня [1941-га]. Школьных заняткаў я не распачынаў, бо было ўсё збянтэжана рознымі падзеямі. Спярша хацелася спаткацца з іншымі людзьмі і больш даведацца пра школьныя справы. Калі выехаў я ў Слонім, дык назад у вёску ўжо больш не вяртаўся. Чаму? А вось чаму. У Слоніме ўжо замацавалася, можна сказаць, беларуская ўлада, хоць кіруючай уладай была нямецкая. Спадар Новік і гэтым разам быў мне веснікам, з кім радзіцца і за што брацца. Хутка я накіраваўся ў інспектарат, дзе застаў працаўнікоў на чале з царкоўным рэгентам з вёскі Сурынка, гадунцом духоўнай школы ў Жыровічах спадаром М. Грынком. Мы лёгка згаварыліся і спадар Грынко даручыў мне арганізаваць рамесную школу на месцы былога ФЗО. Немцы ў гэтай справе не перашкаджалі. Таму трэба было хутка брацца за працу.

Я пачаў хадзіць па ўсім Слоніме і знаёміцца з рознымі беларускімі старшынямі, якіх раней не ведаў, бо іх у Слоніме не было. У першую чаргу паўстала ў Слоніме беларуская Самапомач. Бурмістрам горада стаўся А. Кіслы, а старшынства ў раёне належала сп. Ц-ч, сыну праваслаўнага святара. Памятаецца, што камендантам паліцыі быў прызначаны давераны фольксдойч Шварц, які жыў у Слоніме з 1918 года. Ставіўся ён да беларусаў даволі прыхільна, можа таму, што быў жанаты з праваслаўнай жанчынаю.



*Слонімскія школьнікі на беразе канала Агінскага, 25 траўня 1943 года.*

Паўсталі ў Слоніме і нямецкія ўстановы, такія як Гэбітскамісарыят, СД, жандармерыя ды гаспадарскія прадпрыемствы. Пры нямецкіх урадніках заселі ў большасці польскія сакратаркі. Хоць і афішыраваліся яны, як беларускі, але нічога беларускага не баранілі, а, наадварот, стараліся справе беларускай заўсёды шкодзіць. У некаторых выпадках дапамагалі беларусам савецкія палонныя з надволжскіх немцаў, якія таксама працавалі перакладчыкамі пры нямецкіх установах.

Крыху пазней да нас прыйшлі з помаччу беларускія эмігранты з Захаду. Працавалі мы тады, як хто мог і разумеў, без свайго галоўнага кіраўніцтва. У першую чаргу настаўнікі распачалі школьныя заняткі ў пустых будынках пасля летняга перапынку. Вось тады неяк пачало ўсё пакрысе ажываць. На вуліцы пайшлі людзі, якія вялі сваіх дзяцей у школы, а па нядзелях — у царкву, дзе найбольш збіралася людзей, бо, "як трывога, дык усе да Бога"…

*Заканчэнне ў наступным нумары*

**●Аляксандр Асіпчык**

*[1] Больш правільна будзе сказаць, што не было вялікага пажару, бо некаторыя вуліцы пацярпелі вельмі моцна, як тая ж Ружанская. Больш падрабязна пра гэта гл. тут: Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск, 2012. С. 227-228.*

*[2] Летам 1941 года нямецкімі акупантамі ў горадзе і раёне былі расстраляны мясцовыя жыхары, якія працавалі ў савецкай адміністрацыі, былі чальцамі кампартыі (тыя, што выратаваліся, перайшлі на нелегальнае становішча, а пасля сталі партызанамі). Нярэдка расстрэльвалі свядомых беларусаў, якія даносчыкі называлі "камуністамі". Пра дзейнасць Рымшы таксама гл. тут: Азіраючыся расой выетымі вачыма. С. 229.*

*[3] Беларуская краёвая абарона (БКА) — ваенізаванае фарміраванне на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь" у 1942-1944 гадах.*

*[4] Школа фабрычна-завадскога навучання, у СССР яны існавалі з 1940 года.*

*[5] Тоўстая аглобля.*

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Культурная праца ў Чамярах

Чамяры, Чамерскай гм., Слонімскага пав. Шмат ужо пісалася ў свой час у газетах аб тым, што беларуская вёска прабуджаецца ад свайго векавога сну і пачынае імкнуцца да культурнай працы.

Дык вось і мы, чамераўцы, хочам напісаць пра тое, як у нас прайшлі каляды і пажадаем усім таго самага.

3/I 1927 г. падалі мы слонімскаму старасьце паведамленне аб тым, што хочам 8/I 1927 г. на другі дзень праваслаўных каляд зрабіць вечарыну, дзе будуць згуляны наступныя п'есы: "У кавалёвай хаце", "Модны шляхцюк" і "Стараста", пры чым, разам з паведамленнем паслалі і памянёныя п'ескі.

Стараста абяцаў прыслаць дазвол, або запярэчанне праз пошту.

Нашы маладыя артысты прыгатавалі п'есы надта добра і, нягледзячы на тое, што ад старосты не атрымалі ніякага адказу, у назначаны тэрмін збудавалі сцэну ў сялянскай хаце і зрабілі, што трэба было.

Усё прайшло так жыва і весела, што ляпей не трэба.

І малыя, і старыя сабраліся не толькі з Чамяроў, але і з бліжэйшых суседніх вёсак. Бяда толькі тая, што замалое


Oplata pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

НАШ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адраса 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош. сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пятыту ў 1 шпальту. |

№. 4 Вільня. Субота, 5-га лютага 1927 г. Год I

было памешканне і дзеля гэтага шмат каму прышлося стаяць на панадворку, не бачучы, што робіцца ў хаце.

Спачатку паставілі: "У кавалёвай хаце" і хаця нашы маладыя артысты першы раз прыймалі ўдзел у сцэнічных гульнях, аднак жа згуляна было надта добра і народ страшна зацікаўлены быў гэтай п'есай.

Пасля — "Модны шляхцюк" таксама прайшоў не менш цікава, як і "У кавалёвай хаце".

Апошняй была згуляна "Стараста", якая дала ўсім столькі смеху, што трудна і апісаць.

Адным словам, п'есы былі пастаўлены надта добра.

Калі скончыўся спектакль, хлапцы і дзяўчаты дэкламавалі вершы, якія ўзбудзілі публіку ад смеху да такога бодрага настрою, што па сканчэнні ўсяго з грудзей кожнага вырваліся зыкі беларускай марсельезы: "Ад веку мы спалі і нас разбудзілі". Пасля запяялі яшчэ некалькі беларускіх песень, сказалі маленькую прамову адносна народнаму дому і гэтым усё закончылася.

Каля дзесятай гадзіны ўночы ўсе разышліся дамоў у бодрым і вясёлым настрою і з лепшай надзеяй у будучыну, а моладзь, наняўшы музыканта, зрабіла танцы да гадзіны другой.

Дык вось, як правялі нашы маладыя каляды, — замест таго, каб напіцца гарэлкі і валяцца дзе-небудзь у снягу, або гуляць у карты.

Чэсць і слава вам, чамяроўскія хлапцы і дзяўчаты, барацьбітам з цемнатою; Вы, як маладыя арляняты, на вас уся надзея вашых бацькоў, замучаных панскім бізуном, на вас надзея ўсяго працоўнага люду нашай бацькаўшчыны — Беларусі!

Засявайце навуку ў народзе, не марнуйце дарма часу!

Толькі тады мы зможам збавіцца ад уціску паноў, калі будзем мець сваю культуру!

Давайце прыклады другім вёскам! Няхай жывуць нашы артысты!

●*Ям.*

# У 1941 годзе ліст са Слоніма ў Тэль-Авіў ішоў больш за два тыдні

На адным з інтэрнэт-аукцыёнаў у траўні 2017-га можна было купіць паштовую картку, дасланую вясной 1941 года са Слоніма ў Тэль-Авіў. Адправіла яе Соф'я Офенберг. Яна падала наступны зваротны адрас: Слонім, вуліца Чырвонаармейская, 9/7. Пісала яна папольску ў Палестыну, якая была пад англійскім кіраўніцтвам,




да Зеліга Русецкага. Прасіла адшукаць адрас Аліцыі Страсман, якая эмігравала туды раней.

Са Слоніма паштовая картка была адпраўлена 22 сакавіка, у Тэль-Авіве яе атрымалі 9 красавіка. Праз некалькі месяцаў пачнецца вайна і ўсялякая сувязь паміж слонімцамі і тымі, хто эміграваў у Палестыну, перарвецца.

●*Арцём Салейка*

# Мост у Слоніме на карціне нямецкага мастака

“СК” ужо згадваў пра некалькі малюнкаў, зробленых у Слоніме падчас Першай сусветнай вайны нямецкім мастаком Людвігам Вільгельмам Марцінам Марысам.* У гэтым нумары змяшчаем рэпрадукцыю карціны яшчэ аднаго творцы з Германіі Макса Кларэнбаха (1880 — 1952). Яна мае назву “Салдаты на часовым мосце ў Слоніме”, карціна была напісана ў 1916 годзе (палатно, алей; карціна мае памеры 83 см на 103,5 см). На ёй мы бачым руіны Замосця, менавіта адтуль ідзе калона людзей. Паколькі прысутнічае нямецкая варта на конях, найхутчэй праз мост ідуць рускія ваеннапалонныя. Іх гналі ў тыл з боку лініі фронту, якая праходзіла за Баранавічамі.

Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што мастакі рэдка адлюстроўваюць на сваіх карцінах такую вялікую колькасць людзей. Але працы Кларэнбаха адзначаюцца рэалістычнасцю, ён стараўся дакладна передаць пабачанае, нават у дробных дэталях. Мы бачым некалькіх слонімцаў, а каля іх сабаку, якія назіраюць за праходжаннем па Мастavой вуліцы калоны. Вельмі падрабязна перададзена канструкцыя часовага маста.



***Макс Кларэнбах, аўтапартрэт.***

Сярод тагачасных карцін нямецкага мастака ёсць і шэраг пейзажаў, аднак няма пэўнасці, што рабіліся яны на Слонімшчыне.

●***СЁ***

**СЁ. Слонім і слонімцы на малюнках нямецкага мастака // Слонімскі край, 2017, № 1. Студзень. С. 1, 3.*

# Праз Слонім з сакрэтнай місіяй



*Аляксандр Шышкоў*

У 1797 годзе расійскі імператар Павел І паслаў з сакрэтнай місіяй у Еўропу генерала Аляксандра Сямёнавіча Шышкова (1754 — 1841). Выехаў ён з Санкт-Пецярбурга ў Вену ў пачатку зімы. У канцы снежня дабраўся да Брэст-Літоўска, адкуль напісаў ліст сваёй жонцы:

"Снежня ад 26 дня 1797 года.

…Пісаў я табе з Рыгі, з Коўны, з Вільны, і цяпер пішу з Брэста… Трэцяга дня, праязджаючы гарадок Слонім, заехаў я да знаёмага мне чалавека Дзмітрыя Фёдаравіча Казлова, паабедаў у яго і працягваў шлях свой…".*

Хто ж быў гэты таямнічы Казлоў? Відавочна, што чалавек не мясцовы, з новай адміністрацыі. Маем дзве кандыдатуры. Першая — генерал-маёр Дзмітрый Казлоў, другая — тайны дарадца Дзмітрый Казлоў, які праз некалькі гадоў стане сенатарам. Апошні мог быць у правінцыйным Слоніме, які да лютага 1797-га быў цэнтрам намесніцтва (губерні). Мог там затрымацца і генерал-маёр. Магчыма, камусьці пашчасціць знайсці дакументы, якія дадуць адказ, хто ж з іх і з якой мэтай знаходзіўся ў нашым горадзе.

●***Генадзь Гурскі***

**Цытуецца паводле наступнай публікацыі: Александров Н. Письма из Брест-Литовска как часть летописи нашего города // Брестский курьер, http://www.bk-brest.by/2014/04/8124/*

# Пра чэкіста Уладзіміра К793ановіча

80 гадоў таму быў расстраляны наш зямляк, які служыў у савецкіх карных органах. Пра такіх дзеячоў таксама трэба пісаць, каб на іх прыкладзе людзі бачылі сутнасць сістэмы, пабудаванай у Савецкім Саюзе. Спачатку каты распраўляліся ў нявіннымі людзьмі, а пасля іх кінулі ў тыя ж камеры, у тыя ж расстрэльныя ямы.



Уладзімір Маркавіч Кановіч нарадзіўся ў 1901 годзе ў Слоніме ў яўрэйскай сям'і (магчыма, што ў далейшым змяніў некаторыя біяграфічныя дадзеныя). Бацька быў рамеснікам, сям'я жыла сціпла. Уладзімір атрымаў толькі ніжэйшую адукацыю: навучыўся пісаць, чытаць і лічыць. Для такіх, як ён, рэвалюцыйныя падзеі 1917 года ў Расіі далі шанец на змяненне жыцця, на касмічны ўзлёт кар'еры. І Кановіч схапіўся за яго, ужо ў 17 гадоў становіцца супрацоўнікам органаў савецкай дзяржбяспекі. У 1919 годзе ўступіў у бальшавіцкую партыю. Пасля падзелу Беларусі застаўся ў савецкай частцы, служыў на ніжэйшых пасадах, але паступова прасоўваўся па кар'ернай лесвіцы наверх. На канец 1929 года слонімец быў намеснікам начальніка асобага аддзела АДПУ 64-й дывізіі (Беларуская вайсковая акруга).

У пачатку 1930-х Уладзіміра Кановіча перавялі ў Расію. Быў начальнікам Вялікалуцкага раённага аддзела АГПУ/НКУС. У 1935 годзе служыў памочнікам начальніка асобага аддзела ўпраўлення дзяржбяспекі УНКУС па Ленінградскай вобласці. У 1936 годзе Кановіч стаў капітанам дзяржбяспекі, працягваў служыць у Ленінградскай вобласці.

У 1937 годзе Уладзімір Кановіч атрымаў свой другі значок ганаровага работніка дзяржбяспекі. Для такіх, як ён, працы ў той час хапала. Рэпрэсіі залілі крывёю ўсю краіну. 18 траўня 1937 года Кановіча арыштавалі ў Ленінградзе. Праз нейкі час яго адправілі для следства ў Маскву. 21 жніўня 1937 года "тройка" асудзіла яго на расстрэл. У чым, абвінавацілі, на жаль, адшукаць не змог. Судзілі яго ў "асаблівым парадку". Расстралялі Уладзіміра Кановіча ў той жа дзень у Маскве. Пахаваны ён на Данскіх могілках. У 1956 годзе чэкіста рэабілітавалі. Яго справа захоўваецца ў Цэнтральным архіве ФСБ Расіі.

●***М. І.***

УСПАМІНЫ

# Чарга каля газетнага кіёска

Цяперашняй моладзі цяжка зразумець рэаліі другой паловы 1980-х гадоў. Савецкі саюз, камуністычная ўлада, некалькі тэлеканалаў, цэнзура. І не было інтэрнэту, мабільных тэлефонаў! У тых умовах альтэрнатыўную інфармацыю можна было атрымліваць, слухаючы заходнія радыёстанцыі. А ў СССР іх глушылі! Парадаксальна, што пра важныя падзеі ў сваёй краіне (пра тую ж аварыю на Чарнобыльскай АЭС) людзі даведваліся з “Голасу Амерыкі”, “Бі-Бі-Сі” ці Радыё “Свабода”. Да таго ж там можна было паслухаць цікавыя музычныя, гістарычныя, літаратурныя праграмы.



Прыватных газет ці часопісаў у той час не было, усё знаходзілася пад кантролем улады. Людзі, каб нешта даведацца з савецкіх газет, чыталі “між радкоў”.

Пасля абвешчаных у 1985 годзе “перабудовы” і “галоснасці” змены да лепшага прыходзілі вельмі марудна. Першыя “кропкі прарыву”, СМІ, у якіх пачало з’яўляцца вольнае слова, імгненна станавіліся папулярнымі сярод людзей. Так сталася з тэлепраграмай “Взгляд” на першым савецкім тэлеканале. Што да прэсы, дык усё пачалося з такіх маскоўскіх выданняў, як часопіс “Огонёк”, газеты “Московские новости”, “Аргументы и факты”, з літаратурных часопісаў… У Беларусі дух свабоды адчуваўся ў штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, у арыентаваным на моладзь часопісе “Крыніца”, які выходзіў у двух варыянтах — па-беларуску і па-руску, у газеце “Знамя юности” (адно з самых папулярных і масавых выданняў у той час).

Спачатку ў згаданых газетах і часопісах можна было сустрэць толькі асобныя “гарачыя” артыкулы, якія вылучаліся сярод камуністычнага афіцыёзу, які ніхто не чытаў. З кожным годам свабоды ў прэсе станавілася ўсё больш і больш. Але да самага канца камуністычнай улады (да жніўня 1991 года) на старонках амаль усіх газет можна было сустрэць пашквілі, накіраваныя супраць дысыдэнтаў, нацыянальнага руху, сімволікі, беларускай эміграцыі.

Калі ў Мінску набыць згаданыя выданні было працай (а яшчэ там можна было дастаць самвыдат, мясцовы і маскоўскі), дык у Слоніме — праблема. Таму ў той час нямала людзей хадзіла ў бібліятэкі — чыталі там газеты і часопісы.

Дзесьці ў 1987 годзе ў Слоніме каля газетных кіёскаў (не каля крамаў!) з’явіліся дзіўныя чэргі. Людзей найбольш цікавілі выданні, якія пісалі пра сталінскія рэпрэсіі, пра карупцыю брэжнеўскіх часоў (1970-я — пачатак 1980-х гадоў). Купіць у кіёску маскоўскі ліберальны штотыднёвы часопіс “Огонёк” лічылася вялікай удачай. Хутка разбіралі і газету “Літаратура і мастацтва”, але ўжо пасля таго, як у 1988-м там з’явіўся артыкул пра Курапаты.

Самай цікавай газетай лічыўся маскоўскі штотыднёвік “Неделя”, дадатак да “Известий”. У наш горад яна трапляла ў нядзелі раніцай, тады ж яе развозілі па кіёсках. Яшчэ за гадзіну-паўтары да адкрыцця кіёска “Саюздруку” каля яго арганізоўвалася чарга. Адкрываўся ён у 8.30 ці ў 9.00, атрымліваецца, што першыя чытачы збіраліся каля 7-й гадзіны. Пасля чарга паступова павялічвалася. Але першыя дзесяць чалавек былі людзьмі пастаяннымі, якія ведалі адзін аднаго ў твар. Мы кожную нядзелю выстойвалі гадзінамі ў чаканні любімай газеты. І ў дождж, і ў снег… Сярод гэтай “дзясяткі” я быў наймалодшым, у той час вучыўся ў старэйшых класах першай школы. Іншыя былі значна старэйшыя за мяне, большасць — слонімскія інтэлігенты.

Найчасцей мы стаялі ў чар-

зе каля кіёска, які стаяў у скверы на плошчы Леніна і глядзеў “тварам” на Першамайскую вуліцу. Часам займаў чаргу каля кіёска на рынку. Калі раптам не хапала газеты, даводзілася бегчы да іншага. Сапраўднай трагедыяй былі рэдкія выпадкі, калі заставаўся без “Недели”.

Здараліся камічныя сітуацыі. Бо людзі часам цікавіліся ў нас, “што будуць даваць?”. І неяк недаверліва глядзелі, калі адказвалі, што “газеты”… А ўвогуле людзі лічылі нас дзівакамі. Раніцай у нядзелю на прыпынку каля аптэкі спыняліся аўтобусы, якія прывозілі ў цэнтр жыхароў некалькіх мікрараёнаў. Яны спяшаліся на рынак, безумоўна, па важных справах, а тут мы…

Мне вельмі падабаліся гістарычныя артыкулы, якія рэгулярна з’яўляліся ў “Неделе”. Звычайна гэта быў абсалютна новы матэрыял, пра невядомыя старонкі гісторыі (пра рэпрэсіі, пра іх ахвяраў і пра тых, хто падпісваў расстрэльныя спісы), у падручніках такога не змяшчалі. Публікацыі гэтыя я захоўваў. Захаваўся і артыкул Яўгена Додалева “Наследнички” пра дачку Брэжнева, зяця, унука, пра махінацыі, карупцыю. На той час гэта была сапраўдная “бомба”. Гэты нумар прасілі пачытаць.

Мне здаецца, што падпіскі на “Неделю” не было (прайшлі тры дзесяцігоддзі і памяць шмат чаго не захавала). Яна была б збаўленнем для тых, хто кожную нядзелю мусіў стаяць у чарзе, каб купіць газету. Прыгадваецца, што мы пільна сачылі, як кіяскёрка разбірае атрыманую пошту. Яна ж магла схаваць асобнік-другі пад прылавак для сваіх знаёмых ці сваякоў. Таму праз гэта здараліся невялічкія скандалы.

…Тая чарга каля газетнага кіёска — гэта не толькі прыемны ўспамін пра юнацтва. Гэта абразок вальнадумства ў Слоніме ў канцы 1980-х гадоў. Гэта сведчанне прагі землякоў да вольнага слова. Гэта яшчэ і своеасаблівая пляцоўка, дзе людзі дыскутавалі, абменьваліся навінамі, уражаннямі ад прачытанага. Толькі цяпер падумалася, што за намі тады маглі прыглядваць “кампетэнтныя органы”. Магчыма, дзесьці ў закрытых архівах ёсць фотаздымкі нашай чаргі.

●***Сяргей Дудаліч***

# Леў Мышкоўскі

Фота: mishpoha.org

Лёс гэтага нашага земляка быў трагічным. Леў (Лейба-Юдэль) Ісакавіч Мышкоўскі нарадзіўся ў Слоніме ў 1883 годзе. Сям’я была рабочая, але яна здолела адправіць сына вучыцца ў Віленскі ўніверсітэт. У пачатку XX стагоддзя Леў далучаецца да рэвалюцыйнага руху, быў сябрам яўрэйскай партыі БУНД. У 1920 годзе ўступіў у бальшавіцкую партыю. Як піша ўнук Мышкоўскага Уладзімір Чувараян*, зрабіў ён гэта не дзеля кар’еры, а шчыра верыў, што бальшавікі абараняюць правы прыгнечаных, у тым ліку і яўрэяў.

Пасля Рыжскага міру 1921 года ў Слонім, які апынуўся пад польскай уладай, Леў Мышкоўскі вярнуцца не мог, пераехаў у савецкую Украіну. Ён стаў пісьменнікам, журналістам, перакладчыкам, у Кіеве займаў пасаду намесніка дырэктара Украінскага дзяржаўнага выдавецтва літаратуры нацыянальных меншасцяў. У пачатку 1938 года на яго напісалі данос, далей — арышт, катаванні, абсурднае абвінавачанне ў прыналежнасці да “антысавецкай трацкісцкай арганізацыі”. 26 верасня 1938-га яго асудзілі на смяротнае пакаранне і ў той жа дзень расстралялі ў Кіеве. Рэабілітавалі слонімца ў 1958 годзе. Сваякам паведамілі, што яго дакументы, рукапісы, фотаздымкі, канфіскаваныя пры арышце, не захаваліся.

Такі ж трагічны лёс быў у сваякоў Льва Мышкоўскага, якія жылі ў Слоніме. Падчас нямецкай акупацыі ўсе яны сталі ахвярамі нацыстаў.

●***Генадзь Гурскі***

**Чувараян В. В жерновах сталинщины // Мишпоха (Віцебск), 2013, № 32.*

# У 1805 годзе граф Фёдар Талстой (“Амерыканец”) трапіў пад арышт у Слоніме

Граф Фёдар Іванавіч Талстой (1782 — 1846) лічыцца адным з самых неадназначных прадстаўнікоў рускай арыстакратыі пачатку XIX стагоддзя. Гэта быў чалавек незвычайнага тэмпераменту, аматар дуэляў, удзельнік шматлікіх скандальных гісторый. У той жа час ён быў адважным афіцэрам, таму смелыя ўчынкі падчас войнаў “рэабілітоўвалі” яго, але пасля зноў былі спагнанні…

У 1803 годзе граф накіраваўся на караблі “Нява” ў падарожжа вакол свету. Па дарозе ён быў завадатарам сварак, скандалаў. Аднойчы ён напаіў праваслаўнага святара, а калі той заснуў, прыклеіў яго бараду да дошак палубы… Усё скончылася ў 1804-м, калі Фёдара Талстога высадзілі на Камчатцы і загадалі вяртацца ў Пецярбург па



сушы, праз Сібір. Вяртацца ён не спяшаўся, наведаў Аляску, пасля чаго атрымаў мянушку “Амерыканец”. Калі ж летам 1805 года граф Талстой з’явіўся ў расійскай сталіцы, яго арыштавалі за “звышдзёрзкасць і непрыстойныя паводзіны”. У жніўні паручыка лейб-гвардыі Прэабражэнскага палка перавялі ў Кастрамскі мушкецёрскі пяхотны полк, які толькі быў сфармаваны генерал-маёрам князем Шчарбатавым і часова дыслакаваўся ў Слоніме.

Можна ўявіць, што вырабляў разбэшчаны граф, сасланы ў невялікі беларускі горад. Ён з’явіўся восенню 1805 года, а ўжо 14 снежня яго арыштавалі за бойку, якую ён учыніў са слонімскімі яўрэямі. Падрабязнасці таго здарэння невядомыя. Пад арыштам Талстой правёў два тыдні.

У студзені 1806 года граф ужо быў на волі, але ненадоўга. На гэты раз паручык “дзёрзка” выказаўся пра камандзіра палка маёра Васіля Фіцнера. Зрабіў гэта публічна, магчыма, нават у прысутнасці Фіцнера. Апошні з ім не цырымоніўся, адправіў пад арышт на месяц. Граф Талстой зноў апынуўся на волі ў лютым. Нічога ўчыніць у Слоніме ён больш не паспеў, быў пераведзены на новае месца службы.

●***Генадзь Гурскі***

# Пра беларускае антынацысцкае і антысавецкае падполле

Падчас нямецкай акупацыі Беларусі 1941-1944 гадоў на Слонімшчыне існавалі не толькі савецкія партызанскія і падпольныя групы. Дзейнічаў таксама значна слабейшы і малалікі польскі супраціў.* Менш інфармацыі пра тагачасны беларускі нацыянальны супраціў, які быў адначасова антынацысцкім і антыбальшавіцкім. Таму кожная згадка пра яго вельмі каштоўная.

Праглядаючы архіў беларускага літаратуразнаўцы, удзельніка савецкага падпольнага і партызанскага руху Уладзіміра Калесніка (1922 — 1994), у адным з яго блакнотаў знайшоў цікавы запіс. Ён пераказвае словы кагосьці з сваіх знаёмых, магчыма, са Слонімшчыны: “Унутры СБМ утварылася арг[анізацыя] супраць немцаў і бальшавікоў — гэта было на Слонімшчыне — у апошнія дні [нямецкай акупацыі]. Падполле ўнутры СБМ — чыста нацыяналістычнае”.**

СБМ — гэта Саюз беларускай моладзі, грамадская арганізацыя, якая легальна дзейнічала ў 1943-1944 гадах. І раней было вядома, што сярод яе дзеячоў былі ўдзельнікі беларускага супраціву. А вось інфармацыі па Слонімшчыне не было. У гэтым “чыста нацыяналістычным” падполлі маглі быць і мясцовыя жыхары, і хлопцы з іншых рэгіёнаў, якія навучаліся на курсах малодшых кіраўнікоў арганізацыі ў Альбярціне ў былым палацы графа Пуслоўскага. Можна меркаваць, што летам 1944 года некаторыя з іх выехалі на Захад.

●***Сяргей Ёрш***

**”СК” ужо пісаў пра польскае падполле на Слонімшчыне. Гл. наступныя публікацыі: Ёрш С. Дакумент пра сустрэчу прадстаўнікоў савецкіх партызан і польскага падполля ў 1943 годзе на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2016, № 6. Ліпень. С. 6-7; СЁ. Войцех Корчыц — унук паўстанца // Слонімскі край, 2016, № 7. Жнівень. С. 13; Ёрш С. Дакументы пра дзейнасць польскага падполля на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2016, № 10. Лістапад. С. 10-12.*

***Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 161, в. 2, спр. 226, арк. 228.*

**“Слонімскі край”** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Чыгрын*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.